А Л Е С Ь   Б А Р А Н О Ў С К І

# Чуйнае акно

Вершы

М І Н С К ,   « К Н І Г А З Б О Р » ,   2 0 0 8

УДК 821.161.3-1
ББК 84 (4 Беи)
Б 24

**Бараноўскі, А.**

Б 24 Чуйнае акно: вершы / Алесь Бараноўскі. — Мінск: Кнігазбор, 2008. — 56 с.

ISBN 978-985-6852-55-1.

Дзякуй Богу, не перасыхае крыніца роднай мовы. Яе жывіць новая плынь маладых творцаў з розных куткоў нашай Беларусі. У гэтым вы пераканаецеся, калі прачытаеце вершы Алеся Бараноўскага. Ён парадуе вас мілагучнасцю паэтычнага радка, шчырасцю пачуцця і празрыстасцю мастацкага вобраза.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84 (4 Беи)**

**ISBN 978-985-6852-55-1**

# ЛЯ РЭЧКІ ЦЕРУХІ

Я пазнаёмілася з гэтым хлопцам на адной з сустрэч літаратурнага аб'яднання «Пралеска». Прачытала вершы, пагутарыла з ім і зразумела: пісаць будзе. Яшчэ аднаго хлопца, улюбёнага ў свой родны край і роднае слова, Бог паслаў. І наогул, у маленькіх вёсачках, што гняздзяцца вакол рэчкі Церухі, то тут, то там у розныя гады, як раўчукі вясной, прабіваюцца таленты: Іван Шамякін, Нэлі Тулупава, Міхась Башлакоў, Тамара Федарцова, Леанід Гаўрылкін… Я таксама — пракопаўскае дзяўчо — не вылазіла летам з сябрамі з гэтай цёплай рачулкі. Купаліся, загаралі, збіралі грыбы і ягады ў прыбярэжных лясах: Воленцы, Галцах і Ведзерках. Кожны з нас знайшоў сваю сцяжыну ў жыцці, і многіх яна прывяла ў літаратуру.

Але ж сваіх, цярухскіх, можна пазнаць адразу па гаворцы і па характэрных для гэтай мясціны слоўцах. Ёсць гэтая асаблівасць і ў мове Алеся Бараноўскага. Энергетыка вершаў таксама наша, цярухская, як і мова: пяшчотная, напеўная, меладычная, нібы струменіцца гаманкая рачулка між прысадаў, уздоўж сцежкі, што вядзе па пясчаным беразе…

Па сцяжынцы новы крок,
Па вадзе ці міма,

Светлы ранішні дымок —
Гэта ўсё Радзіма.

Аўтар распавядае пра родны яго сэрцу куток вобразна, разважліва, пераканаўча:

Словы святыя — Радзіма і Маці,
Як той агеньчык, што цепліцца ў хаце.
Радасць і ўцеха для хворага сэрца,
Нібы за пазухай Бога, здаецца.

Вобраз маці і радзімы жыве глыбока ў сэрцы, напаўняе святлом жыццё, натхняе на новыя творы:

Нішто так моцна не пячэ мне сэрца,
Як матчына сляза.

Смутак у вершах пераплятаецца з верай у наступны дзень, а таксама ў моц родных каранёў, што жывяць яго на бацькоўскай зямлі, памечанай вайной і Чарнобылем.

Пагас той дзень, нібыта цень, развеяны,
Пакінуты, дзе шляху не відно.
А ён, хваробай цяжкаю навеяны,
Аднойчы стукне ў чуйнае акно.
Вось так жывём: у лепшае нам верыцца…

Алесь многа разважае пра паэта і паэзію, пра ролю паэтычнага слова ў ягоным жыцці. Ён цэніць кожную шчаслівую хвіліну, якая падарыла яму натхненне і радасць тварыць.

Разгані, дзянёчак, хмары вадзяныя,
Мне сяброў надзейных, лёс, наваражы.

Ды няхай, мой Божа, побач будуць тыя,
Хто ў бядзе не кіне, дык і можна жыць.

Я радуюся разам з Алесем яго першай кніжцы і буду чакаць наступнай, хаця б таму, што першая кніга — як першы пацалунак, які «апошнім ніколі не стане».

*Ніна ШКЛЯРАВА,*
*член Саюза пісьменнікаў Беларусі*

* * *

Адцвітае верасок,
Вабіць нас маліна.
І галінка, і пясок —
Гэта ўсё Радзіма.

Па сцяжынцы новы крок,
Па вадзе ці міма,
Светлы, ранішні дымок —
Гэта ўсё — Радзіма.

Чалавек, ты не астынь
Сэрцам і вачыма.
У душы не руш святынь.
Гэта ўсё — Радзіма.

* * *

Не запальвай, зорка, аганёк падманны,
Не свяцi так ярка ля чужых шляхоў.
Не хавайце, травы, сонейка старанна,
Каб сваю сцяжынку ў свеце я знайшоў.

Разганi, дзянёчак, хмары вадзяныя.
Мне сяброў надзейных, лёс, наваражы.
Ды няхай жа, Божа, побач будуць тыя,
Хто ў бядзе не кiне, дык i можна жыць.

## РОДНАЯ МОВА

Пустазеллем парасла зямля.
Пішуць зноў гісторыю нанова…
Самая магутная мая,
Шчырая і ветлівая мова!
Ты цвіла, бы ў жыце васілёк,
Лісцейкам цягнулася да сонца.
Ты густы змагла адолець змрок,
Што ахутваў цемраю бясконцай.
Зноў сплятаюць гукі карагод —
Будзе неўміручым тваё слова,
Хай любоў мацнее кожны год
Да пяшчотных песень тваіх, мова!

## Я ВЯРНУСЯ

Я вярнуся дадому, прыйду,
Калі нават я буду далёка.
Я знайду свой куточак, знайду.
Для мяне гэта будзе так лёгка.
Хоць сто тысяч дамоў — і тады
Я маленькі агеньчык у хаце
Адшукаю ў акне праз гады:
Там чакае заўжды мяне маці.
Абыйду ўсе сцяжынкі, шляхі.
Сярод іх недзе свой адшукаю.
За якія зямныя грахі
Мы не самі свой лёс выбіраем?

## ТРЫЯЛЕТ

Не саромейся роднае мовы,
Не хавайся за прыкрасцю слоў.
Не мяняй ты буслоў на арлоў…
Не саромейся роднае мовы.
Не замкні сваё сэрца… Адкрый.
Упусці мілагучныя словы…
Не саромейся роднае мовы,
Не хавайся за прыкрасцю слоў.

* * *

Палячу да сваёй Беларусі
І з крыніцы вадзіцы нап'юся,
Каб вышэй узляцець за нябёсы
І на травы скаціцца, бы росы.

А прачнуцца пад гоман птушыны
І пад шолах лістоты ў лагчыне.
Каб заўсёды мне бачыць улетку
Цёплы дожджык на цёплых палетках.

Тут расціла мяне мая маці
І буслы прыжыліся на хаце.
Тут зрабіў першы крок па дарожцы,
А цяперака крочу па плошчы.

Толькі ведаеш, роднае поле,
Я свабодны, як птушка на волі,
Аблячу цэлы свет, нібы гусі,
Але сэрца аддам Беларусі.

* * *

Расцём і забываем пра бацькоў.
Трава па пояс, дзе калісь хадзілі.
Ля веснічак, сярод другіх слядкоў,
Не ўбачыш сына ці дачкі — забылі.

Мы вельмі хутка крочым па жыцці,
Нам некалі лунаць у небе — марыць.
І часу не хапае ўсё ж пайсці
На пошту, каб бацькам свой ліст
адправіць.

Дзе наша ўдзячнасць, наша дабрата?
Зірнуць бы збоку на сябе вось зараз.
Не дазваляе наша слепата,
А мо сурочыла людская зайздрасць…

А час не йдзе, а подбегам бяжыць,
Не робіць перапынкаў, не чакае.
Мы доўга разважаем, як нам быць.
Замест таго, каб жыць, мы разважаем...

## ПРЫСВЯЧАЕЦЦА ПАМЕРЛАЙ БАБУЛІ

Нешта цяжка, бы хмары ляглі мне
на плечы…
Пуста ўсюды, і свет у акне не гарыць.
Хоць і кажуць, што час быццам некага
лечыць,
Але ж рана на сэрцы не ціхне, баліць.
Зараслі ўжо сцяжынкі, што віліся побач.
Ні намёку на тое, што недзе былі.
Тыя ж яблыкі, толькі не тая ўжо слодыч:
Адзічэлі зусім ды ляжаць на зямлі.
Не ўздымуць нас болей ля хаты арэлі.
Не пазнаць тое дрэва, дзе лазілі мы...
У нябыт адышлі, успамінам згарэлі.
Вось і лета прайшло, мы чакаем зімы.

## ПЕСНЯ

Калі мяне паклічуць у нябёсы
Стаць песняю апошняй жаўрукоў,
Рачулку і загадкавыя плёсы
Пакіну я без енку і без слоў.

Напэўна, я адразу пагадзіўся
Таму, каб гэтай песні не сціхаць.
Каб зноў на свет я з гукам нарадзіўся,
Каб жыць у песні, з ёй жа паміраць.

Цвіці, цвіці, валошкавае поле,
І зёлкамі да сэрца прыпадзі.
Да шчасця мяне выцягні ты з болю,
На свет мяне з цямрэчы прывядзі.

* * *

Апранулася сэрца ў колеры болю,
Папрасілася нанач у хату завея.
Ох, жыццё ты, жыццё — неспазнаная
доля…
У трох соснах мая заблукала надзея.

Я раскрыю акно, каб падыхаць паветрам
І душу наталіць сваю водарам кветак.
Паляцяць наўздагон мае думкі за ветрам
І расой упадуць на азяблы палетак.

Хачу ўбачыць, але не расплюшчу я вочы.
Нешта хоча паведаміць родная мова.
А на справе — усё мне прыснілася ўночы,
Раніцой на паперу лажыліся словы.

## ПАМЯЦІ ЯНКІ КУПАЛЫ

Вялікі свет, усё шляхі, дарогі...
Каб са сваёй не збочыць незнарок.
Не ведаем, дзе шчасце, дзе астрогі:
На Беларусі быў адзін Прарок.
Трымаўся, хоць жыццё не раз згінала,
Бы прыклад нам: пакуль жывеш — пішы,
Каб вершы, што жыццё загартавала,
Надзейна затрымаліся ў душы.
Прывабна беларуская «Паўлінка»
З «Тутэйшымі» да нас з табой ідуць.
Да сэрцаў пракладаючы сцяжынку,
Нас кветку-папараць шукаць завуць.

## СЛОВЫ

Розныя словы, я ведаю сам:
Словы як летнія лозы,
Словы як помнік мінулым вякам,
Словы як матчыны слёзы.
Вось яны кветкай вясною цвітуць,
З дрэва ківаюць галінкай,
Песняю струны душы закрануць,
Потым уюцца сцяжынкай.
Вераю сэрца маё агарнуць
І пра надзею мне сведчаць.
Будзяць сумленне, наперад вядуць,
Сэрца спагадаю лечаць.

## ТРЫЯЛЕТ

Баімся мы нявыказаных слоў…
На тонкім аркушы паперы белай
Кладуцца думкі рыскаю нясмелай —
Баімся мы нявыказаных слоў…
Расчынены ў вясну наросхрыст дзверы,
Душы ты ўмела струны падбярэш —
На тонкім аркушы паперы белай
Як сведка нарадзіўся новы верш.

## ПАЭТУ

Прыкутасць да жыцця — то не пакуты.
Жыццё не параўнаецца ні з чым…
Калі папаліся ўжо лёсу ў путы,
Нясём свой крыж, то плачам, то маўчым.

І, можа, сёння крыўдай ты сагнуты
І думкі ўсе ахоплены кляцьбой.
Прыкутасць да жыцця — то не пакуты:
Засвеціць сонца заўтра над табой.

Калі ж загнаны будзеш сам у кут ты,
Чакай зімою весну ты ў душы.
Прыкутасць да жыцця — то не пакуты.
Пакуль магчыма — дыхай і пішы.

## ШТО ДЗЕНЬ РЫХТУЕ МНЕ…

Што дзень рыхтуе мне — я не баюся.
Хоць гараваць прыходзіцца часком.
Я стану на калені, памалюся
І ціха пасяджу пад абразком.

Калі ж мне здарыцца стаяць
на раздарожжы…
Каб я да мэты да сваёй дайшоў,
Святая вера ў гэтым дапаможа,
Якую б я сцяжынку ні знайшоў.

Што мне падорыць лёс, з тым пагаджуся,
Благое сыдзе, бы ў ваду — пяском.
Я стану на калені, памалюся
І ціха пасяджу пад абразком.

* * *

Пякельнае сонца праз цемру праб’ецца,
І шэрая хмара адыдзе сама.
Ніколі павага ў душы не прачнецца
І годнасць, калі яе ў сэрцы няма.

Упарта не хочам мы жыць па законах.
Людскія ці боскія — ўсё не для нас.
Жыццё не жадаем пражыць мы
ў паклонах,
Жадаем, каб лёс нам зрабіў рэверанс.

Дык, можа, забыцца на веру, надзею,
І, можа, не шкодна так будзе для нас?..
Без іх не пражыць ў паўсядзённай завеі.
Жыцця ж павуцінне залатвае час.

## ШАНЦ

Двух шанцаў у жыцці не маем:
Ад Бога дадзены адзін.
На жаль, мы гэта забываем
Праз пяць ці дзесяць мо хвілін…
Жыццё мы можам перамераць,
Узвесіць «супраць» і ўсе «за».
І верыць можам, і не верыць,
Хадзіць па вастрыю ляза.
А ёсць яшчэ такія людзі:
Жывуць на свеце без тугі.
Маўляў, шанц, будзе ці не будзе,
Ды прыйдзе ўсё-такі другі.
Ды шанц адзін… Жыве не вечна,
А, мабыць, некалькі хвілін.
Мне зразумела ўсё, канешне:
Жыць — шанц нам дадзены адзін.

* * *

Не згіне вера, жыць нанова
Наканаваў ёй цяжкі век.
Яна цярплівасці выснова,
Яе аснова — чалавек.

Няхай ламае бура вецце,
Няхай хвалююцца грамы.
За ўсё, што робіцца на свеце,
Нясём адказнасць толькі мы.

Няхай уяўную сапраўднасць
Хаваем недзе ў глыбіні.
Ідзе, як цень, услед рэальнасць,
Мані сабе ці не мані.

## ТРЫЯЛЕТ

Божы храм не зачынены людзям,
Для ўсіх тых, хто жыве на зямлі…
Каб любіць, спадзявацца маглі,
Божы храм не зачынены людзям.
Так заўсёды бывае ў жыцці:
Бяда прыйдзе — хрысціцца ўсе будзем…
Божы храм не зачынены людзям,
Для ўсіх тых, хто жыве на зямлі…

## НЕ ЧАКАЙЦЕ

Не чакайце мяне, калі ў вырай ад вас
адлячу.
І навошта назад, калі зверху — бясконцае
лета?
Буду ветрам шумець, буду кроплямі
грукаць дажджу:
Не замоўкне душа, што жыве разам
з сэрцам паэта.
Не засохне пяро, што засее аднойчы радкі.
Хай трухнее труна, але ж ведаем:
вечнае слова.
Мы жывем, як жывецца, ў радкі час
паставіць гадкі.
Не здарма ж нашым вуснам зноў
трызніцца
родная мова.

# ЛЕС

Спаласаваны доўгімі сцяжынкамі,
Зямлянкамі памечаны ў вайну.
Заселены дубамі ды асінкамі,
Якія вядуць гутарку сваю.
Гамоняць яны сонечнымі ранкамі,
Забыўшыся, напэўна, на спакой.
Разбуджаныя соннымі заранкамі,
Ківаюць ім бярозкі галавой.
Зязюля — гаспадыня тут нястомная —
За годам год імкнецца падлічыць.
І кожная хвілiначка галоўная,
Яе патрэбна з годнасцю пражыць.
І гэта мае ўсё зямліца матчына,
Якую шанаваць нам і любіць.
І помніць: дадзены нам лес ў спадчыну,
Нам без яго на свеце не пражыць.

## ТРЫЯЛЕТ

І хто сказаў, што сэрцу не баліць,
Калі яно заходзіцца ў маўчанні?..
Чакае шчасця з ранку да світання.
І хто сказаў, што сэрцу не баліць?
У такт яго нясмелыя ваганні,
Дзе розум дрэмле, а надзея спіць.
І хто сказаў, што сэрцу не баліць,
Калі яно заходзіцца ў маўчанні?..

## З ЧАГО ПАЧЫНАЮЦЦА СЛЁЗЫ

Жыццё — неўзаранае поле.
Мне поле знаёма да болю…
Там ветрыку плачацца ў лозах.
З чаго пачынаюцца слёзы?...
Заходзіцца жальбай Айчына,
Нібыта пад ветрам каліна,
Што з рэхам гуляецца ў росы…
З чаго пачынаюцца слёзы?..
А можа, з маленькай крынічкі?
Забытай дзіцём рукавічкі?
Са свежых мядзвяных пакосаў?
З чаго пачынаюцца слёзы?..
Жыццё — неўзаранае поле,
Што мне так знаёма да болю,
Як гэта гняздо на бярозе…
З чаго пачынаюцца слёзы?..

* * *

На бездарожжы, дождж і недарод,
На хмызнякі, счарнелыя ад гора,
На смерць багаты сорак другі год,
На жах, і стогн, і слёз салёных мора…

Ад болю крэкчуць дрэвы — гуд ідзе.
І кронай узняліся аж да неба:
— Дзе наша вызваленне, шчасце дзе?
Здаецца, што нікому мы не трэба.

І гіне кожны дзень зямля ад тых,
Каму сама жыццё падаравала,
І адбіраюць ёй снарады слых,
Акопамі яна спаласавана.

І хоць зязюля ўмела варажыць,
Але ж яна іх лёс не вызначала,
Каб толькі ім да раніцы дажыць!
Каб сонейка для іх з-за хмары ўстала!

Тут падаў попел на траву з расой
І чорная ў рацэ вада стаяла,
Ды белаю сваёю смерць касой
Жыццё, як жыта буйнае, зразала.

Закрэсліць гэты час бы назаўжды...
Але ж ці знойдуцца такія фарбы?
І помняцца ваенныя гады,
Бо памяцi жывых героі варты.

## РЭКВІЕМ

Жудасна. Стрэлы. Упаў нехта мёртвы.
Не выжыў, загінуў тут кожны чацвёрты.
Жывым было рэха, галёкала ў лад,
І рады быў рэху бязлітасны кат.

Здрада. Засада. І зноў нехта мёртвы.
— Не выдам, — прамовіў тут кожны
чацвёрты.
Апошняе, што давялося пачуць —
Як сэрца варожыя кулі сякуць.

Выбух гарматы. Падае мёртвы.
Ворагам помсціў тут кожны чацвёрты:
Загінулі бацька, матуля і брат.
Грыміць над зямлёю жалобны набат.

Ціха. Чуваць, як пчала ладзіць соты…
Спіце спакойна, кожны чацвёрты!

## НЕВЯДОМАМУ САЛДАТУ…

Ты месца не маеш свайго, і не маеш
крыжа.
Няўмольная смерць у зямлі назаўжды
прапісала.
Далёка над светам ляціць франтавая душа,
Жыццё ты аддаў за свабоду, і гэта
не мала.
Няхай на тым месцы абдымуцца зноў
карані
І першыя кветкі з-пад снегу сустрэнуць
прадвесне,
І памяці голас тады праз гады з глыбіні
Раскажа пра подзвіг, зальецца жалобнаю
песняй.
І будзе крыжом табе вечная ўдзячнасць
душы,
А сонца праменьчык заменіць цяпло
нашых сэрцаў…
Хай кветкі вясновыя стануць вянком
на крыжы
І ціхай слязою раса на пялёсткі
пральецца…

## ЛІСТ У 42-ГІ

Я пашлю свой ліст далёка,
Дзе чырвоныя сцягі:
У далёкі і нялёгкі
Тысяча дзевяцьсот сорак другі.

Напішу,каб трымаліся людзі,
Што не зломіць іх вецер вайны
І чырвоны сцяг перамогі
Над рэйхстагам уздымуць яны.

Я пісьмо напішу сваё вязню,
Атрымае мой ліст удава.
Буду доўга чакаць я адказу,
А ўжо вязня на свеце няма.

Напішу я свой ліст потым маці,
Што не выйдзе ніяк з забыцця
І сядзіць адзінокая ў хаце
На аскепках былога жыцця.

Перакладвае зноўку паперы,
Фотаздымкі паціху бярэ.
Звыш паўвека надзеі і веры,
Што жывая крывінка яе.

Напішу я свой ліст, падтрымаю
Я матулю, што ночы не спіць.
Зменшыць боль я ёй шчыра жадаю,
Спадзявацца, трымацца і жыць.

Я пашлю свой ліст далёка,
Дзе чырвоныя сцягі:
У далёкі і нялёгкі
Тысяча дзевяцьсот сорак другі.

## ВІТАЮ

Вітаю цябе, невядомы салдат,
У сонечны дзень Перамогі!
У гонар жыцця калакольны набат,
Да помніка сёння дарогі.

На гэтае свята тут многа гасцей —
Салдатаў загінуўшых дзетак.
Сляза на вачах, б’ецца сэрца часцей,
І мора вялікае кветак.

Застылі, нібыта той помнік, стаім,
Галовы схілілі з пашанай.
Не ведалі воіна, лічым сваім,
Глядзім навакол здзівавана.

Вайна разгарнула над воінам сцяг,
Блішчыць яна ціхай слязою
У бронзавых гэтых салдацкіх вачах,
Якія належаць Герою.

* * *

Зямля людзей, зямля бацькоў знявечана,
Няўстойлівы радыактыўны фон.
Душа і сэрцы, людзі — пакалечаны,
Хоць праляцела ўжо не мала дзён.

Пагас той дзень, нібыта цень, развеяны.
Пакінуты, дзе шляху не відно.
А ён, хваробай цяжкаю навеяны,
Аднойчы стукне ў чуйнае вакно.

Вось так жывём: у лепшае нам верыцца.
Хваробы ж падзываюць смерць бліжэй.
Журба на могілках ажно праменіцца,
Няўжо нікога час не зберажэ?

## ПАКЛОН

Усё менш і менш на свеце ветэранаў,
І усё больш пражытых імі дзён.
Не загаілася душа яшчэ ад ранаў.
Паклон, Герой, што выжыў ты… Паклон.

Не кожны можа вытрымаць такое:
Не здацца, нават трапіўшы ў палон.
І вытрымаць, але якой цаною.
Паклон, Герой, што выжыў ты… Паклон.

Паміж вайной і намі столькі часу —
Нібы бар’ер, нібы нямы кардон.
Бяда не забываецца адразу.
Паклон, Герой, што выжыў ты… Паклон.

* * *

Нішто ў душы не пакідае вечны жар:
Ні полымя,
Ні вуглі,
Ні пажар.
Нішто ў душы не пакідае вечны жар,
Як маці роднай твар.
Нішто так моцна не пячэ мне сэрца:
Ні крыўда
І ні рана ад ляза.
Нішто так моцна не пячэ мне сэрца,
Як матчына сляза.

* * *

Маці мая, маці,
Чым табе аддзячыць?
Сэрцам на далоньцы
Ці то ўсмешкай сонца?

Каб была ў гуморы,
Каб не знала гора.
Вусны — нібы кветкі.
Колас на палетках —
Гэта твае косы.
Слёзы — нібы росы.
Помню твае казкі,
Словы «калі ласка»…

Маці мая, маці,
Чым табе аддзячыць?
Зоркай на світанні
Ці з табой спатканнем
У садзе сцяжынкай?
Мы — твае галінкі.

Маці мая, маці,
Прамянёк у хаце.
Цёплыя далоні,
Дарагія скроні.

Маці мая, маці,
Што табе аддаці?
Аддаю сябе я,
Ласкаю сагрэю.

* * *

Словы святыя — Радзіма і Маці,
Як той агеньчык, што цепліцца ў хаце,
Радасць і ўцеха для хворага сэрца.
Нібы за пазухай Бога, здаецца.

Словы святыя — Радзіма і Маці…
Іх пастарайся ніколі не страціць.
Імі ж і ў холад магчыма сагрэцца,
Як толькі ў сэрцы ім знойдзецца месца.

* * *

Роднае акенца,
Родная зямля…
Родненькі куточак —
Беларусь мая.
Ёсцека, мне верыцца,
Цуды на зямлі.
Гора перамелецца —
Толькі б мы жылі.
Колькі скарбаў знойдзена,
І не падлічыць.
Колькі сцежак пройдзена...
Дык давайце жыць!
Свеціць шчодра сонейка,
Грэе раўчукі,
І жывецца добранька
Дома ўсё ж такі.
Роднае акенца…
Родная зямля…
Родненькі куточак —
Беларусь мая.

* * *

Я пра слёзы болей не пішу,
Я пішу пра пачуццё даверу.
Дабрынёю шчырасці дышу
І чамусь у гэта толькі веру.

Немагчыма радасці спазнаць,
Не адчуўшы горычы хвіліннай.
Многае нам прыйдзецца прыняць
У калавароце дзён няспынных.

Прамільгнулі хутка дзень за днём,
Памяць павыкідвала благое.
Дзякуй Богу: сёння мы жывём.
І жыццё такое дарагое.

## ВЯСНА

У розны час вясна штогод прыходзіць:
Бывала, сакавік, а снег ляжыць.
Знікае холад — рэчкі палаводзяць.
Зямля прачнецца, пачынае жыць.

І хто хоць раз кідаў сваё зярнятка
Пад коўдру мяккай веснавой раллі,
Дык для таго, напэўна, не загадка,
Чаму красуюць кожны год палі.

Зірнеш уверх — ніводнай аблачынкі,
А потым дожджык — мокры ўвесь ідзеш.
І паляцяць, як белыя хусцінкі,
Пялёсткі, калі вецце закранеш.

Зямля вясновым сонейкам сагрэта,
Краса паўстане, быццам з небыцця.
Тры месяцы лагодных перад летам —
Хвіліна напярэдадні жыцця.

## ТРЫЯЛЕТ

Прыйшла вясна — запелі навальніцы.
У лесе зацвітаюць верасы.
І поле сніць тугія каласы.
Прыйшла вясна — запелі навальніцы.
Дзяцей усюды чутны галасы.
Мяне дзяўчаты вабяць чараўніцы.
Прыйшла вясна — запелі навальніцы.
У лесе зацвітаюць верасы.

## ЛЕТУЦЕННЕ

Снежаньскім завеям не паверу,
Веру у бясконцую вясну.
Свету расчыню я насцеж дзверы,
Каб свой сон прысніць, калі засну.

Покрывам бялюткім ахінуцца,
Снегам на тваёй руцэ растаць.
Толькі б мне з табой не размінуцца,
Толькі б шчасце мне з табой спазнаць.

Крок за крокам ціхаю хадою,
Думкамі да зорак паляцець.
Кропляю паплыць услед, вадою…
Толькі б мне цябе не праглядзець.

* * *

Ты не чакай мяне у верасні з дажджамі
І з навальніцаю ў нябёсах не чакай.
Шляхі жыццёвыя мы выбралі не самі.
Табе наканаваны месяц май.

Ты, верасовая, гучыш нібы вяснянка
У аксамітных кропельках расы.
Брыду я босы па травіцы спазаранку.
Ласкочуць ногі золак-валасы.

Твой зорны май, я ўвосень голлем стылым
Ліст адпускаю. Нібы матылёк —
Няхай ляціць над полем восеньскім
панылым —
І ўбачыць гэты май хаця б здалёк.

* * *

Дзве рукі ў мяне ёсць, каб цябе абдымаць,
Дзве нагі, каб з табой белы свет
адкрываць.
Маю двое вачэй, каб цябе распазнаць,
Толькі сэрца адно, што ўмее кахаць.

## ТРЫЯЛЕТ

У цуд калі паверыў я,
Каханне апаліла сэрца.
Цяплом душы я змог сагрэцца,
У цуд калі паверыў я.
І шчасце поўнае, здаецца,
Перажыла душа мая.
У цуд калі паверыў я,
Каханне апаліла сэрца.

* * *

У радасць, не ў гора няхай перайначыцца
свет,
Хто любіць — пачуццяў у сэрцы сваім
не схавае.
І хоць заракаўся ў каханне не верыць паэт,
Ды зноўку вясну на парозе сваім
сустракае.
«Любіць і кахаць» — нам жыццёвы
гучыць запавет.
Няўжо між людзей век апошні ён свой
дажывае?
У радасць, не ў гора няхай перайначыцца
свет,
Хто любіць — пачуццяў у сэрцы сваім
не схавае.

* * *

Адшумела лагоднае лета,
І з дрэва сарваўся лісток.
Было, не прыснілася гэта:
І школа, і першы урок.

Не нас сустракае прыветна
Штодзённа гарэза-званок.
Ляцелі гады непрыкметна,
Спляліся ў вялікі клубок.

Кружыліся, вальс танцавалі —
Ніяк не забыць нам яго.
Мы хутка дарослымі сталі
На балі юнацтва свайго.

Лістота на дол ападае,
Каб потым пупышкай ажыць.
Юнацтва заўжды не хапае,
І час, як шалёны, бяжыць.

* * *

Хто адкажа, што такое шчасце?..
Першыя лісточкі на вярбе?
Можа, усё добрае ды скласці —
Кожны вырашае для сябе.

Можа, гэта кветкі рознай масці?
Ці вясной пупышкі на вярбе?
Нехта называе гэта шчасцем…
Кожны вырашае для сябе.

Можна галаву сваю пакласці
Покуль знойдзеш, дзе адказ ляжыць.
Толькі той раскажа ўсё пра шчасце,
Хто меў шчасце гэта перажыць.

## ПЕРШЫ ПАЦАЛУНАК

Свой золак, нібы падарунак,
У сэрцы схаваю навечна.
Як першы ў жыцці пацалунак,
Які ўсе хваробы залечыць.

Збліжэнне далоняў спакусных
І дотык да скроняў пяшчотны.
Вось-вось дакрануся да вуснаў,
Такіх трапяткіх і лагодных.

Хай зменіцца з часам малюнак,
Няхай напаткае растанне.
А першы ў жыцці пацалунак
Апошнім ніколі не стане.

ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Бараноўскі** Алесь Аляксандравіч

Чуйнае акно

*Вершы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Н. Шклярава*
Камп'ютэрны набор *А. Бараноўскага*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *В. Аскерка*

Падпісана да друку 30.08.2008 г. Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$
Друк на рызографе. Папера афсетная. Гарнітура Times.
Ул.-выд. 1,79 арк. Ум. друк. 2,94 арк.
Наклад 100 асобнікаў. Зак. 1027.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0131712 ад 12.05.06.
220112, Мінск, вул. Я. Лучыны, 38-93.
**Тэл./факс (017) 204-86-97,**
**тэл. (029) 772-19-14, 912-83-86.**

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў друкарні УП «Ходр» БелТІЗ.
Ліцэнзія ЛП № 02330/0056661 ад 29.03.04.
220004, г. Мінск, вул. Вызвалення, 9.